КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.
(Сэкцыя Камуністычнага Інтэрнацыяналу).

Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПАРТРАБОТНІК

ОРГАН ЦК КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

№ 2 | ВІЛЬНЯ, ЛЮТЫ 1933 г. | Цана 20 гр.

ЗЬМЕСТ:



## Гераічная забастоўка рабочых Белавескай Пушчы падняла на барацьбу сялян-беднякоў Белавежы, Пружаншчыны, Слонімшчыны.

### ЗДРАДЖАНЫЯ САЦЫЯЛ-ФАШЫСТАМІ БАСТУЮЧЫЯ РАБОЧЫЯ І СЯЛЯНЕ ПЕРАМАГАЮЦЬ ПАД РЭВАЛЮЦЫЙНЫМ КІРАЎНІЦТВАМ СВАЙГО ЦЭНТРАЛЬНАГА СТАЧАЧНАГА КАМІТЭТУ.

У папярэднім (студзеньскім) нумары «Партработніку» мы пісалі пра забастоўку ў Белавежскай Пушчы, як пра барацьбу, якая ўжо закончылася частковай перамогаю на падставе ўмовы, падпісанай і дэлегатамі, выбранымі праз бастуючыя масы. Гэтых дэлегатаў як дырэкцыя, гэтак і сацыял-фашыстоўскія бюракраты змушаны былі пад напорам мас дапусьціць да ўдзелу ў перагаворах.

Цэнтральны Камітэт у той час ня меў яшчэ, з прычыны масавых арыштаў на вучастку барацьбы, дакладнай інфармацыі аб сапраўдным ходзе гэтага нібы «заканчэньня» стачкі і аб далейшых падзеях. Аказалася, што ня гледзячы на тое, што пры падпісаньні ўмовы прысутнічалі выбраныя дэлегаты, ППС'аўскія круцялі выкарысталі іх нявопытнасьць і ганебна іх ашукалі. Умова была разьлічана на тое, каб **разьбіць адзінства ў барацьбе рабочых і малазямельных сялян.** Умова ўстанаўлівала **розныя** стаўкі для адных і другіх: безьзямельным прызнавала павышэньне на 30%, малазямельным за тую-ж самую працу—15% (бастуючыя трэбавалі павышэньня на 50%).

Пра далейшае разьвіцьцё падзеяў пасьля падпісаньня ўмовы мясцовая арганізацыя паведамляе наступнае:

**«10 сьнежня (дзень вызначаны стачачным камітэтам для дэманстрацыі да дырэкцыі) да сабраўшыхся ўжо рабочых у ліку некалькі сот чалавек прыляцелі двух прадстаўнікоў АК ППС і, паведамляючы аб падпісаньні ўмовы, заклікалі прыступіць да працы. Сабраўшыяся з абурэньнем адкінулі гэты заклік і выбралі на месцы пашыраны стачачны камітэт у ліку больш 30 чалавек. ППС'аўцы, баючыся выпусьціць бастуючых з сваіх здрадніцкіх лапаў, зьмянілі фронт і ўціснулі ў стачаны кмітэт свайго чалавека, Грыневіча, старшыню існуючага на паперы саюзу малазямельных. Першае выступленьне гэтага агента капіталу, нібы «абаронцы» малазямельных сялян, было накіравана як раз супроць малазямельных сялян. Грыневіч дзеля таго, каб угрунтаваць умову, якая крыўдзіць маларољ-**

ных, меў нахабнасьць заявіць, што сяляне ўдзелу ў стачцы не прымалі, а былі штрэйкбрэхерамі. Атрымаўшы належны адпор, Грыневіч паставіў на галасаваньне пытаньне аб далейшай забастоўцы. З 39 прысутных — 15 галасавала за працягваньне забастоўкі, 6—супроць, астатнія ўстрымаліся. Але калі Грыневіч заявіў, што тыя хто ўстрымаліся, таксама супроць забастоўкі, дык усе гарача запратэставалі і ўзьнялі рукі за працяг забастоўкі».

Стачачны камітэт адразу разаслаў па вёсках ганцоў з заклікам працягваць забастоўку. Далучылася салідарна да забастоўкі **39 вёсак** (перад тым баставала 12 вёсак). Да забастоўкі далучыліся таксама **возчыкі,** выставіўшы трэбаваньне 50% падвышкі. 12-га студзеня стачачны камітэт правёў **сход дэлегатаў** у колькасьці 100 чалавек, які выказазаўся аднагалосна за далейшы працяг забастоўкі аж да перамогі і прызнаў камітэт, як **цэнтральны стачачны камітэт** і як адзінае кіраўніцтва стачкаю. Была вылучана «камісія дапамогі» для арганізацыі збораў грашыма і ў натуры для бастуючых.

Пабітыя правадыры ППС перасталі хадзіць да стачачнага камітэту за выключэньнем аднаго толькі Пасяка—старшыні дравапрацоўчага саюзу, які стараўся ўтрымацца хаця-б у ролі «апсэрватара». Ён галосна выказаўся за далейшую забастоўку.

Далучэньне да забастоўкі возчыкаў з некулькі дзесяткаў вёсак у момант, калі **кіраўніцтва забастоўкаю было вырвана з рук сацыял-фашыстаў,** і вылучан быў цэнтральны стачачны камітэт, даводзіць аб тым, **з якім глыбокім недавер'ем адносяцца масы да ППС і якую баявую энэргію будзіць у іх самы факт стварэньне рэвалюцыйнага кіраўніцтва стачкаю.**

Навука для ўсіх апартуністаў, што балбочуць пра быццам непераможны «аўтарытэт» пепеэсаўскіх прафсаюзных бюракратаў і «нежаданьне» мас да барацьбы!

Тая нязломная энэргія, прабуджаная рэвалюцыйным кіраўніцтвам, выявілася і ў далейшым ходзе стачкі. Нягледзячы на дзікі паліцэйскі тэрар, масавыя арышты, вымарваньне голадам і катаваньне арыштаваных, ня гледзячы на канфіскацыю з боку паліцыі прадуктаў, што дастаўляліся бастуючым, барацьба нязломна працягвалася далей, а штрайкбрэхеры якіх хацелі насадзіць у Пушчу пад ахранаю паліцыі і прывезеных здалёка—атрымалі жорсткі адпор ад бастуючых. Пікеты і масавая самаабарона актыўна пільнавалі ўвесь час на вучастку барацьбы.

**У першых днях лютага месяца, а значыцца праз 4 месяцы пасьля таго, як распачалася забастоўка і 2 месяцы пасьля заключэньня з боку ППС здрадніцкай умовы, стачка была пераможна закончана здабыцьцём 30% падвышкі.**

## ЯК РАЗВІВАЛАСЯ БАРАЦЬБА ЗА РЭВАЛЮЦЫЙНАЕ КІРАЎНІЦТВА СТАЧКАЮ.

**ПЕРШЫ ЭТАП (1-10 лістапада).** Забастовачныя настроі насьпеваюць у Пушчы яшчэ перад пачаткам сэзону. Іх узмацняюць агітацыя і акцыя масовак праведзеная нашай арганізацыяй. На сходзе саюзу дрэваапрацоўшчыкаў і нават на партыйным сходзе ППС большасьць выказваецца за стачку напракі правадыром. Правадыры ППС пад напорам мас ідуць на аб'яўленьне стачкі і бяруць яе поўнасьцю пад свае кіраўніцтва.

Наша арганізацыя ў моманце пачатку стачкі больш лічная чым мясцовая арганізацыя ППС. Але яна пераважна сялянская. ППС мацней сядзіць на прадпрыемствах і распараджаецца прафсаюзным апаратам.

У гэтым першым пэрыядзе стачкі наша арганізацыя мае слабы кантакт з бастуючымі. Буржуазная і ППС-аўская прэса цалкам умалчвае пра забастоўку. Паліцыя, даверваючы кіраўніцтва ППС, ня ўмешваецца актыўна да стачкі.

**ДРУГІ ЭТАП (11-27 лістапада).** Гэты пэрыяд ахватвае разьвіцьцё барацьбы ад часу выбару першага стачачнага камітэту да прыняцьця рэвалюцыйных рашэньняў агульным сходам бастуючых у Гайнаўцы. Наша арганізацыя здабывае грунт шляхам арганізаваньня актыўнай дапамогі бастуючым (завоз прадуктаў сялянамі). Праз выбар першага стачачнага камітэту ў Новым Гданску (11-XI) падважваецца манаполія сацыял-фашыстоўскага кіраўніцтва і стварaецца арганізацыйная база для адзінафронтовага рэвалюцыйнага кіраўніцтва. Сход бастуючых у Новым Гданску (19-XI) і выступленьні на гэтым сходзе ДЭЛЕГАТА БЕЛАСТОЦКІХ ТЭКСТЫЛЬШЧЫКАЎ пашырае ўплыў стачанага камітэту. Паўстаюць два новых стачаных камітэты ў Чэрлянцы і ў Пасуцкіх Будах. «Роботнік» перастае маўчаць пра забастоўку і падае першыя весткі пра яе (22-XI), каб ашальмаваць камуністаў і прабудзіць чуйнасьць паліцыі. Наступаюць масавыя арышты. Паліцыя акупіруе Пушчу для ахраны штрэйкбрэхераў. Рабочы Тарасевіч, з стачачнага пікету, забіваецца на пастарунку ў Сухапольлі. Пікеты і самаабарона пад кіраўніцтвам стачачных камітэтаў разьбіваюць спробы штрэйкбрэхерства. Акцыя дапамогі ў Беластоку і ў акрузе ўзьнімаюць настрой змагаючыхся і даверра да рэвалюцыйнага кіраўніцтва. Рэвалюцыйны настрой ахопліваe значную частку ППС-аўскіх рабочых. ППС завастрае левыя фразы і выдае хуліганскую адозву супроць камуністаў, — ППС-аўскія РАБОЧЫЯ АДМАЎЛЯЮЦЦА ЯЕ КАЛЬПАРТАВАЦЬ. Тактычныя памылкі нашай арганізацыі—хістаньні ў

дачыненьні да Пасяка і яму падобных, сэктанцкі падыход да рабочых з ППС, гатовых да адзінафронтовай барацьбы, адцяжка ў справе стварэньня цэнтральнага забастовачнага камітэту—усё гэта аблягчае манэўры ППС.

На сходзе забаставаўшых у Гайнаўцы 27-XI правадыры ППС, каб ня быць перагаласаванымі, прыймаюць нашыя дамаганьні звальненьня арыштаваных, выдаленьня паліцыі з Пушчы і наш лёзунг салідарнай забастоўкі ў цэлай Беластоцкай акрузе—усё гэта робяць з мэтай, каб сабатаваць гэтую забастоўку пад прыкрыцьцём «належнай падрыхтоўкі» і г. д.

ТРЭЦІ ЭТАП (27-XI — 10-XII) барацьба канцэнтруецца ў гэтым пэрыядзе навакола стачкі салідарнасьці і ўдзелу выбраных дэлегатаў у перагаворах з дырэкцыяй. Выбраныя дэлегаты — у большасьці рэвалюцыйныя рабочыя — але сход дэлегатаў дзейнічае адарвана ад стачачных камітэтаў.

Арыштаваньне стачачнага камітэту ў Пасудзкіх Будах, проба арыштаваць камітэту ў Чэрлянцы, адбітая масамі, гатовымі змагацца з паліцыяй у абарону камітэту. Паліцыя адступае. Стачачны камітэт Чэрлянцы ахоплівае і Пасудзкія Буды. Камітэт назначае на 10-XII дэманстрацыю пад дырэкцыю і агульный сход бастуючых для выбару салідарнага стачачнага камітэту. Правадыры ППС, каб гэтага ўнікнуць, заключаюць 9-XII вядомую ўмову, скрыўдзіўшы малазямельных.

ЧАЦЬВЕРТЫ ЭТАП (10-XII — 4-II — 33г.). Адхіленьне пепеэсаўскай умовы і вылучэньне цэнтральнага стачачнага камітэту. Стачка пад рэвалюцыйным кіраўніцтвам, пашыраная на сялян-возчыкаў, ПЕРАМОЖНА заканчваецца з падвышкою на 30%.

* *

## ЗНАЧЭНЬНЕ АКЦЫІ МАТАР'ЯЛЬНАЙ ДАПАМОГІ І АКЦЫІ САЛІДАРНАСЬЦІ.

Белавеская стачка павінна грунтоўна зьмяніць адносіны нашага актыву даспраўы матар'яльнай дапамогі і кампаніі салідарнасьці ў стачачных акцыях. Палітычнае значэньне такой дапамогі дагэтуль пераважна недаацэньваецца. Досьлед Белавескай стачкі даказаў, што матар'яльная дапамога, узмоцненая праз кампанію салідарнасьці, зьяўляецца ня толькі РЭАЛЬНАЙ, дапамогаю бастуючых, але таксама нязьмерна важным зьвяном у БАРАЦЬБЕ ЗА РЭВАЛЮЦЫЙНАЕ КІРАЎНІЦТВА. Дапамога сялян у рабочых стачках і дапамога рабочых у сялянскіх баёх зьяўляецца таксама найбольш канкрэтным зьдзейсьненьнем баявога рабоча-сялянскага саюзу, які зьяўляецца падставаю рэвалюцыйнай стратэгіі нашай партыі.

Збор сялянскай бульбы для бастуючых, выступленьні сялянскіх дэлегатаў на скліканых масоўках былі адным з ЗАЧЭПНЫХ ПУНКТАЎ у барацьбе за рэвалюцыйнае кірўніцтва. Выступленьне беластоцкага дэлегата на сходзе бастуючых у Новым Гданьску і грашовыя сумы ад зборак беластоцкіх рабочых, перададзеныя бастуючым, рэгулярна рэгістраваныя стачачнымі камітэтамі былі важным фактарам падтрыманьня баявога настрою і пашырэньня ўплыву стачачных настрояў. Газэта «Walka robotników leśnych», адозвы і лісты, якія паведамляюць аб акцыі салідарнасьці ў Беластоку пашыралі палітычны гарызонт бастуючых, і папулярызоўвалі як у Белавежы, гэтак ува ўсёй Беластоцкай акрузе лёзунг масавых палітычных стачак, разьвязваньне каторых зьяўляецца цэнтральным зьвяном для ўзьняцьця на вышэйшы зровень сёньняшняй стачачнай хвалі. Ліст групы Віленскіх салдат, прачытаны на сходзе бастуючых узьняў іх эканамічную барацьбу на зровень палітычнай барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры, супроць акупацыі, супроць імпэрыялістычнай вайны.

Беластоцкая арганізацыя разгарнула значную (у параўнаньні з іншымі акругамі) акцыю салідарнасьці: рэзалюцыі і зборы сярод тэкстыльшчыкаў, шаўцоў, краўцоў, маляроў, гутнікаў, мэталістаў, будаўнічых рабочых, шофераў і інш. колькі гадзінная стачка салідарнасьці шаўцоў і г. д. Але і тут усе магчымасьці ня былі выкарыстаны, асабліва занадта нясьмела і хістка была ініцыятыва СТАЧАК САЛІДАРНАСЬЦІ. Іншыя акругі амаль зусім не адгукнуліся. Асабліва трэба падкрэсьліць мізэрна слабае рэагаваньне Віленскай арганізацыі на Белавескую стачку. Гэта ніяк ня можа тлумачыцца ўнутранымі труднасьцямі, што перажываюцца Віленскай арганізацыяй. Вільна павінна ведаць сваю ролю ў рэвалюцыйным руху і адказнасьць, якая на ёй ляжыць. Таксама з пункту гледжаньня барацьбы з рэнэгацкаю групаю, што прабуе ўнесьці раскалад у Віленскую арганізацыю, шырокая акцыя салідарнасьці не перашкодзіла-б, а памагла-б ліквідаваць раскладовыя элемэнты.

## АКТЫЎНЫ РАБОЧА-СЯЛЯНСКІ САЮЗ.

Гэты саюз выразіўся ў супольнай стачачнай барацьбе, у акцыі салідарнасьці і ва ўплыве Белавескай стачкі на барацьбу сялянскіх мас у Берасьцейшчыне і ў Навагрудчыне.

«У Новы Гданьск—чытаем у аднэй з справаздач—сяляне прывезьлі бульбу, але не знайшлі стачачнага камітэту, які ў поўным складзе ДЗЯЖУРЫЎ У ЛЕСЕ НА ПІКЕТАХ. Тады сяляне арганізавалі па ўласнай ініцыятыве масоўку жонак бастуючых. Сабралася каля 30 жанчын, якім сяляне расказалі, скуль узялася гэтая дапамога. Яны абмежаваліся ад сацыял-фашызму, заяўляючы, што сбор праводзіў не пепеэсаўскі прафсаюз, а рэвалюцыйныя сяляне, і патрабавалі, каб не чапаць прывезеную бульбу, пакуль не паявіцца забастовачны камітэт і не разьдзеліць яе справядлівым чынам. Перад ад'ездам яны разьвіталіся з жанчынамі з выкрыкам: «Няхай жыве забастоўка!»

Паліцыя неаднокраць канфіскоўвала прывезеную бульбу, пепеэсаўцы праводзілі агітацыю супроць «камуністычнай бульбы», застрашваючы што хто яе возьме, той пойдзе на шыбеніцу. Але бастуючыя віталі гэтую дапамогу з энтузіязмам, менавіта, як камуністычную дапамогу, разумеючы яе палітычнае значэньне, як выраз рабоча-сялянскай салідарнасьці, накіраванай супроць усякіх пробаў ураду і ППС убіць клін паміж рабочымі і сялянамі.

А фактаў, падобных да вышэйапісанага былі дзесяткі ў Белавескай стачцы.

## МАНЭЎРЫ САЦЫЯЛ-ФАШЫСТАЎ.

Каб ратаваць свае ўплывы, правадыры ППС ішлі, як вядома, на ўсялякія левыя фразы і рэвалюцыйныя жэсты. Яны выказаліся за стачку

салідарнасьці, яны зачытывалі камуністычную адозву і агаварваючы паасобныя пункты клалі на іх на вачох мас сваю партыйную пячатку ў знак таго, што з рэштай яны згаджаюцца. Калі нельга было супроцьпаставіцца вылучэньню цэнтральнага стачачнага камітэту, Грыневіч ўвахозодзіў у яго, а пасьля здэмаскаваньня Грыневіча Пасяк выказваецца за далейшую стачку і сьпевае гімны на чэсьць рэвалюцыйнага кіраўніцтва.

Каб пасьпяхова змагацца з такімі манэўрмі трэба памятаць, што сацыял-фашысты «не ад добрага жыцьця »пускаюцца на такія выкрутасы, што яны паступаюць так дзеля таго, што рэвалюцыйная хваля вырывае з-пад іх ног грунт Усялякія ілюзіі адносна шчырасьці гэтых левых фраз і жэстаў, альбо аб іх «аб'ектыўна рэвалюцыйнай ролі»—гэта вада на млын сацыял-фашыстоўскай зграі. Але перанясеньне слушнага недавер'я да правадыроў на шэраговых пепеэсаўскіх рбочых, якія не ашуканцы, а АШУКАНЫЯ, зьяўляецца таксама вадою на млын гэтай зграі. Гэтых рабочых трэба без хістаньня ўцягваць да супольнага фронту, а найбольш актыўных з іх вылучаць у стачачныя камітэты. Яшчэ члены ППС, але ЎЖО ўдзельнікі і супольныя кіраўнікі адналітага фронту рабочай барацьбы, яны ўрэшце зразумеюць, што гэтая барацьба не ўвязваецца з прыналежнасьцю іх да ППС і зразумеюць здрадніцкую ролю ня толькі таго і іншага правадыра, але ППС, як партыі. Белавеская арганізацыя не заўсёды ўмела утрымаць правільную лінію ў гэтай справе. Але ня гледзячы на памылкі яна зрабіла вельмі многа для здэмаскаваньня сацыял-фашызму і вырываньня рабочых з-пад уплываў. Памылкі павінны быць выраўнаны ў далейшай працы, пашыраныя палітычныя ўплывы неадкладна замацаваны арганізацыйна, апазыцыя ў дрэваапрацоўчым саюзе і ў саюзе малазямельных (калі гэты астатні мае якіясь сур'ёзныя уплывы і значэньне) павінна быць арганізавана і актывізавана на шырокай падставе адзінага фронту, ячэйкі на тартаках і іншых прадпрыемствах павінны быць як мага хутчэй пабудаваны.

Белавеская Пушча, а перадусім яе пралетарскі асяродак—Гайнаўка павінна быць нашай.

## СУР'ЕЗНАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ ПАМЫЛКА.

Такой памылкаю ў Белавескай стачцы было надзвычайна слабае высоўваньне лёзунгу БАРАЦЬБЫ З АКУПАЦЫЯЙ, слабая ўвязка стачачнай акцыі з нацыянальна-вызваленчым рухам, слабая прапаганда інтэрнацыянальнай салідарнасьці і канкрэтна — салідарнасьці ПОЛЬСКІХ рабочых з беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам. Замазваньне гэтага боку нашай палітычнай платформы ня было выпадковым. У арганізацыі чутны былі апартуністычныя думкі, што гэтай справы ня трэба завастраць. Адзін з таварышоў выказаўся нават, што адозвы да рабочых Гайнаўкі павінны удзеляць больш увагі польскім рабочым, мець подпіс КПП, а не КПЗБ! Значыцца мы мелі справу з выразным падпаданьнем вялікадзяржаўнаму польскаму шавінізму, які пашырае ППС. Гэтаму яскраваму апартунізму трэба было даць неадкладна няшчадны адпор.

Нідзе так як у Пушчы драпежная і разбойніцкая лапа акупанта, менавіта як акупанта ў паняволяным краі—не хапае так непасрэдна за горла як беларускага рабочага і селяніна, гэтак і польскага рабочага. Нідзе братэрства ў супольнай нэндзы і ў супольнай барацьбе польскіх і беларускіх працоўных мас ня маецца так відавочна, як менавіта ў нязносных варунках працы, што існуюць у Пушчы, дзе урад—акупант зьяўляецца аднача сна і капіталістам і катам—прыгнетальнікам усіх працуючых. Тут лягчэй чым дзе-кольвек пераканаць польскага рабочага, што барацьба беларускіх працоўных мас за іх сацыяльнае і НАЦЫЯНАЛЬНАЕ вызваленьне—гэта яго ўласная барацьба, гэта шлях да яго ўласнага вызваленьня.

Гэтая цяжкая палітычная памылка павінна быць таксама тэрмінова выраўнена ў далейшай працы Белавескай арганізацыі.

## ГЕРАІЧНАЯ БАРАЦЬБА СЯЛЯН ВОЗЧЫКАЎ У ПРУЖАНШЧЫНЕ.

Стачачная барацьба сялян возчыкаў, што вязуць дрэва да станцыі Аранчыцы для прыватнага прадпрыемцы, распачалася ў пачатку сьнежня адразу пад рэвлюцыйным кіраўніцтвам. Бастуючыя высунулі трэбаваньне падвышэньня аплаты за перавозку аднаго мэтра (што працягваецца часамі 4 дні) з 5 да 8 злот. Стачка ахапіла адразу 15 вёсак, потым пашырылася больш чым на 50 вёсак.

Наша мясцовая арганізацыя не адразу ацаніла поўнасьцю неабходнасьць вылучэньня стачачных камітэтаў і цэнтральнага стачачнага камітэту, як непасрэдна вылучанага масамі кіраўніцтва. Толькі пад націскам Берасьцейскага АК і навучэная досьледам барацьбы(завастрэньне сутычак з штрэйкбрэхерствам і паліцыяй), арганізацыя перамагла сэктанцкую недаацэнку масавых кіруючых органаў. У першай палове студзеня паўстаў і шэраг мясцовых стачачных камітэтаў, якія выбралі дэлегатаў у цэнтральны стачачны камітэт. Былі арганізаваны пікеты, чырвоныя ганцы і самаабарона. Бастуючыя выказалі нязломную салідарнасьць, пробы штрэйкбрэхерства былі задушаны ў зародку. У данны момант у нас няма яшчэ вестак аб заканчэньні гэтай стачкі, але ў палове студзеня прадпрыемтсвы ахвяравалі ўжо 7 злот ад мэтра.

Аб настроі мас сьведчыць той факт, што досыць было выслаць двух дэлегатаў, каб больш дзесятку вёсак длучылася да стачкі. Пра кожную заўважаную ў лесе фурманку, якая ахранялася паліцыяй, пікеты і чырвоныя ганцы тэрмінова давалі знаць да бліжэйшых і больш далекіх вёсак праз чырвоных ганцоў (дзеці і падлеткі). Натоўпы мужчын, жанчын і дзяцей заступалі штрэйкбрэхерам дарогу, закідваючы іх і паліцыю гразьзю і каменьнем. У шмат якіх выпадках з гэтымі штрэйкбрэхерамі распраўляліся жорстка, рэзалі упраж, лмалі колы.

Стачачная акцыя ўзьняла актыўнасьць сялянскай масы тксама на іншых вучастках: у барацьбе супроць падаткаў, сэквэстратараў, літытацыі і ў барацьбе з паліцэйскім тэрорам. Аб тым, як гэтая барацьба уплывала і на масы і на САМУ АРГАНІЗАЦЫЮ кажа ліст аднаго з раённых актывістаў:

«У нас да забастоўкі ў Пружаншчыне ніякіх масавых выступленьняў ня было, хоць маса была гатова на такія выступленьні. Папярэдні РК, як мы цяпер бачым, ніякай работы ня вёў, ячэйкі ніколі не зьбіраліся, ніякіх пытаньняў не абгаварвалі. Аб РК нябыло ні слуху ні духу, як быццам ён не існаваў. Сэкратар РК, ня кажучы ўжо аб тым, каб пашоў на ячэйку, але ніколі ня зьбіраў сэкратараў ячэяк. Ні аб якой масавай працы не абгаварывалася і г. д. Вось мы і

думалі, што гэта так і трэба, каб ніхто аб нас ня ведаў. Цяпер мы толькі ўсьвядомілі, што такое палажэньне зьяўляецца сэктанцтвам. Бяда ў тым, што мы мала падрыхтаваны, слаба ведаем з чаго пачаць і як рабіць. Большасьць з нас яшчэ трэба вучыць, як арганізаваць масоўку. Калі мы пачыналі гэтую забастоўку, то самі ня верылі, што зможам яе так лоўка зарганізаваць. А цяпер мы бачым, што калі працаваць, дык можна шмат зрабіць, асабліва, калі нам памагаюць і намі кіруюць з АК».

Гэты ліст яскрава пацьвярджае правільнасьць пастаянных дырэктыў ЦК, што толькі на основе канкрэтнай масавай барацьбы можна змагацца пасьпяхова з сэктанцтвам, разьвязваць і арганізаваць барацьбу шырокіх працоўных мас.

* *
*

**У Слонімшчыне ў маентку Літва, у вёсцы Савічы і ўнекалькіх іншых вёсках баставалі ў сьнежні сяляне возчыкі за падвышэньне платы на некалькі злот ад кожнага фэст-мэтру дрэва. Стачкі закончыліся перамогаю.**

## ЗНАЧЭНЬНЕ БАЛАВЕСКАЙ ЗАБАСТОЎКІ.

Ня гледзячы на паасобныя памылкі, як апартуністычныя хістаньні ў дачыненьні да «левых» ППС-аўскіх балбатуноў і, з другога боку, сэктанцкае зьмешваньне ў адну купу рэвалюцыйных ППС-аўскіх рабочых з іхнымі правадырамі, неабгрунтаванае адкладваньне ўтварэньня цэнтральнага стачачнага камітэту і ўвязкі яго выбараў з дэманстрацыяй пад дырэкцыяй, няўцягваньне да стачачнага камітэту выбраных дэлегатаў да перамоваў з дырэкцыяй і недастатковае палітычнае кіраўніцтва гэтымі дэлегатамі і т. п.,—ня гледзячы на гэтыя памылкі, праведзеная Белавежскай арганізацыяй барацьба за самастойнае кіраўніцтва стачкаю была наогул **правільным** застасаваньнем тактычных прынцыпаў нашай партыі. Гэтая барацьба праведзеная ў нячувана цяжкіх варунках **раёным** і **ячэйковым** актывам нашай партыі, даводзіць, што тактычныя ўказаньні, устаноўленыя кіруючымі інстанцыямі КПП і КПЗБ цалкам адпаведаюць сытуацыі і пры ўмелым наогул іх ужываньні пры энэргіі і вытрыманасьці **вядуць да перамогі рабочых у барацьбе з капіталам і ўрадам** (у Белавежскай Пушчы прадпрыемцаю зьяўляецца ўрад), **да дэмаскаваньня сацыял-фашыстаў і палітычнай перамогі нашай партыі.** Гэтая перамога ў данных варунках тым большая, што Белавежская стачка была выразна **наступальнаю,** што бастуючыя заваявалі **падвышку** ў варунках глыбокага крызісу і масавага беспрацоўя і што гэтая стачка была трыумфам актыўнага **баявога саюзу рабочых і працоўных сялян.**

На досьледзе гэтай стачкі павінен вучыцца ўвесь партыйны і камсамольскі актыў. Шмат нашых акругоўцаў, кіраўнікоў гарадзкіх камітэтаў і прафсаюзных дзеячоў не мала могуць вывесьці ад гэтай забастоўкі карысных вурокаў.

Белавежская стачка мае вялікае значэньне для рэвалюцыйнага руху ўсёй ЗБ. Яна непасрэдна ўзварушыла сялянскія масы, пацягнула да стачачнай барацьбы сялян—возчыкаў з дзесяткаў вёсак Пружаншчыны і Слонімшчыны, сталася непасрэдным выразам гегемоніі пралетарыяту ў сялянскім руху. Гэтае значэньне Белавежскай стачкі партыя павінна далей паглыбляць, папулярызуючы ў масах гэтую гераічную барацьбу.

# Беласток.

## ДОСЬЛЕД ЗАБАСТОЎКІ Ў СОКАЛ-ЗЫЛЬБЭРФЭНІГА.

**Пасьля заканчэньня агульнай стачкі беластоцкіх тэкстыльшчыкаў у летку м. г. фабрыканты, пры яўнай дапамозе сац.-фашыстаў і знаходзячагася ў іх руках праўленьня профсаюзу тэкстыльшчыкаў пачалі ламаць заключаную калектыўную ўмову, праводзячы зьніжэньне зарплаты і масавыя рэдукцыі. Атакі праводзяцца няўпынна на аддзельных фабрыках, цэхах, зьменах, каб ізаляваць паасобныя фабрыкі, распарушыць сілы рабочае клясы. Адпор тэкстыльшчыкаў выявіўся ў стыхійна выбухаючых стачках на паасобных фабрыках (Грынбэрго, Каплана, Муркеса), але Беластоцкая партарганізацыя, якая не здолела замацаваць здабытыя ею ў часе агульнае стачкі буйныя дасягненьні, аслабіла сваю масавую працу, не змагла стаць на чале гэтых стыхійных стачак, аб'яднаць і пашырыць іх.**

**Націск фабрыкантаў усьцяж узмагаецца. Пры дапамозе пэпэсоўскіх і хадэцкіх дэлегатаў фабрыканту ўдалося таксама зламаць адпор бадай на ўсіх аддзелах фабр. Сокал-Зыльбэрфэніга. І толькі рабочыя выканчальні 5-га сьнежня распачалі стачку і абсадзілі фабрыку. 7-га сьнежня на агульным сабраньні рабочых да стачкі далучаюцца ўсе другія аддзелы гэтай фабрыкі, высоўваючы дамаганьне зьнясеньня праведзенага ўжо 10% зьніжэньня зарплаты і выплаты розьніцы за ўвесь папярэдні час. Па ініцыятыве профлявіцы агульнае сабраньне выбірае забастовачны камітэт, арганізуецца рабочая міліцыя з 50 чал., якая прапускае на фабрыку толькі па**

пропускам стачачнага камітэту. Стачком не дапускае да штрэйкбрэхерскіх перагавораў пэпэсоўскіх дэлегатаў з Вевюрам на чале з фабрыкантам і распачынае самадзельныя крокі да пашырэньня стачкі на другія фабрыкі, высылае дэлегацыю на фабр. Махая.

Беластоцкі АК правільна ацаніў момант і высунуў задачу пашырэньня стачкі на ўсе тэкстыльныя фабрыкі Беластока і арганізацыю шырокай акцыі салідарнасьці. Аднак для рэалізацыі гэтай правільнай установкі і забясьпячэньня нашага самадзельнага кіраўніцтва стачкай бадай нічога не было зроблена.

Карыстаючы са слабай актыўнасьці нашай партарганізацыі, сацыял-фашысты рабілі ўсе, каб якнайхутчэй зьлiквідаваць стачку на фабрыцы Сокал-Зыльбэрфэнінга, пакуль яна яшчэ не пашырылася на другія фабрыкі. На агульным сабраньні прафсаюза тэкстыльшчыкаў 6-га сьнежня Капітулка не дапушчае да слова рэвалюцыйных рабочых, не дапушчае да галасаваньня прапазыкі аб рганізацыі агульнай стачкі, заместа чага прапануе стапнёвае частковае пашырэньне стачкі на некаторыя фабрыкі. Нашы таварышы не здэмаскавалі гэтага манэўру соцыял-фашыстаў, а таксама нічога не зрабілі, каб спыніць працу на гэтых фабрыках. Ясна, што сацыял-фашысты нават не ставілі сабе мэтай затрыманьне гэтых фабрык, гэта быў толькі манэўр, каб выйграць час, на дзеле-ж пэпэсоўцы, бундаўцы і хадэкі, памінаючы забастовачны камітэт, зьвярнуліся да старасты і інспэктара працы, дамагаючыся інтэрвэнцыі для ліквідацыі стачкі на фабрыцы Сокал-Зыльбэрфэніга.

Стачачны камітэт фабр. Сокал-Зыльбэрфэніга распачынае самадзельныя крокі да пашырэньня стачкі: па ініцыятыве профлявіцы агульна фабрычнае сабраньне выбірае 20 дэлегатаў для правядзеньня масовак на другіх фабрыках; стачком праводзіць масоўку на фабрыцы Шапіро, якая прыймае пастанову далучыцца да стачкі. Але і тут высілкі стачкому не знаходзяць належнага падтрыманьня з боку нашай партарганізацыі па мабілізацыі рабочых другіх фабрык і далучэньня іх да стачкі.

11-га сьнежня агульнае сабраньне прафсаюзу, наўпракі сацыял-фашыстоўскаму праўленьню, прыймае па ініцыятыве профлевай пастанову распачаць агулыую стачку 12-га сьнежня. Праўленьне прафсаюзу на чале з Капітулкай не дапушчае да выбару агульна-стачачнага камітэту. Аднaчасна пэпэсоўцы, бундаўцы і хадэкі ломяць салідарны фронт рабочых фабрыкі Сокал-Зыльбэрфэніга, згаджаюцца на 5% зьніжку і ідуць у кантору атрымоўваць зарплату па•новым расцэнкам.

І вось нават у гэты рашаючы момант Беластоцкая арганізацыя фактычна нічога не зрабіла, каб, ня гледзячы на здраду сацыял-фшыстаў, прадоўжыць стачку на фабрыцы Сокал-Зыльбэрфэнінга, пашырыць яе на іншыя фабрыкі і самадзельна прыступіць да арганізацыі агульнай стачкі. Нашы таварышы дапусьцілі шэраг буйных памылак і выявілі праступную бяздзейнасьць імення ў гэты рашаючы мамэнт. Пасьля прыняцьця агульным сабраньнем рашэньня аб агульнай стачцы і яўнаму сабатажу з боку сацыял-фашыстоўскага праўленьня, нашы таварышы не выступілі з дэмаскаваньнем сацыял-фашыстоўскага штрэйкбрэхерства, не паставілі рэзалюцыі аб выражэньні недаверыя штрэйкбрэхерскаму праўленьню, нічога не зрабілі для таго, каб наўпракі сац.-фашыстоўскім штрэкбрэхерам, зарганізаваць неадклдна выбары агульна-стачачнага камітэту, а фактычна пакінулі рэалізацыю рашэньня аб агульнай стачцы ў руках яўных сабатажнікаў і здраднікаў. Нашы таварышы не высунулі на гэтым-жа сабраньні лёзунгу неадкладнай дэманстрацыі пад фабрыку Сокала-Зыльбэрфэніга, дзе фактычна важыўся лес стачкі, каб не дапусьціць да яе зрыву. АК не змабілізаваў партарганізацыі ў гэты рашаючы момант, не сканцэнтраваў сілаў на рашаючых пунктах, не зрабіў высілкаў, каб затрымаць важнейшыя фабрыкі і такім чынам рспачаць рэалізацыю рашэньня аб агульнай стачцы.

Досьлед гэтай стачкі сьведчыць аб тым, што Беластоцкая арганізацыя і яе кіраўніцтва дасюль не прысвоіла сабе падставаў нашай стратэгіі і тактыкі забастовачных баёў, установкі на самадзельнае кіраўніцтва забастовачнымі баямі, Слабая актыўнасьць, недапушчальны хвасьцізм, стаўка на самацек, апартуністычныя ілюзіі да сацыял-фашыстоўскага праўленьня прафсаюзу—вось што характарызуе дзейнасьць нашай беластоцкай арганізацыі ў гэтай стачцы і зьяўляецца падставовай прычынай таго, што сацыял-фашыстам яшчэ раз удалося сарваць барацьбу беластоцкіх тэкстыльшчыкаў.

Беластоцкая партарганізацыя павінна неадкладна зрабіць высілкі з гэтага цяжкага досьледу. Трэба падняць актыўнасьць партарганізацыі, цясьней зьвязацца з тэкстыльнымі фабрыкамі, узмоцніць барацьбу за апанаваньне прафсаюзу, няшчадна дэмаскуючы штрэйкбрэхерства сац.-фашыстоўскіх правадыроў, разгарнуць шырокую адзінафрантовую акцыю для падрыхтоўкі да новых баёў, да адпору неспыняючыхся атак фабрыкантаў. Партарганізацыя павінна прывясьці ў парадак свае сілы, падняць актыўнасьць ячэек, пакончыць з расхлябанасьцю, апартуністычнай стаўкаў на самацек, вясьці рашучую барацьбу з права-апартуністычнымі ілюзіямі да сацыял-фашыстоўскіх манэўраў і забясьпечыць самадзельную ролю партыі ў кіраваньні насьпяваючымі новымі стачачнымі баямі.

# АБ ПРАЦЫ ЯЧЭЙКІ БЕЛАСТОЦКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ.

«Са значнай часткі ўступіўшых членаў партыі ў часе забастоўкі тэкстыльшчыкаў арганізацыя згубіла кантакты».

(З матар'ялаў аб Беластоку).

У матар'ялах з Беластоку за тры месяцы нічога няма аб працы саміх ячэек. Беластоцкае кіраўніцтва не навучылася яшчэ ў сваёй працы абапірацца на ячэйкі, а па-старому абапіраецца на адзінак. Беластоцкая арганізацыя ў часе эканамічных баёў тэкстыльшчыкаў і шаўцоў хутка вырасла за кошт рабочых, уцягнутых у эканамічную барацьбу, у рэвалюцыйную барацьбу за свае штодзённыя патрэбы. Гэты факт паставіў перад беластоцкай арганізацыяй задачу аграмаднай палітычнай важнасьці — пераварыць, перавыхаваць гэтыя новыя кадры змага-

роў у камуністычным духу, даць ім палітычнае выхаваньне, аўладаць нашымі оргнавыкамі, азнаёміць з задачамі, якія стаяць перад усёй партыяй на падставе разгортваньня іх уласнай ініцыятывы і актывізуючы іх у штодзённай партыйнай працы.

ЦК КПЗБ у свой час гэтую задачу паставіў перад беластоцкай арганізацыяй. ЦК у свой час сыгналізаваў небясьпеку адыходу гэтых новых членаў, калі мы іх не здолеем замацаваць у партыі. ЦК ставіў такжа перад беластоцкай арганізацыяй рабіць націск у сваёй працы на ўзмацненьне кіраўніцтва барацьбой тэкстыльшчыкаў. Аднак, як мы бачым, парт-арганізацыя Беластоку недастаткова зьвяртала ўвагі гэтым важнейшым пытаньням нашай орг. палітыкі. У выніку мы ня маем пералому ў справе арганізацыі апазыцыі ў прафсаюзе тэкстыльшчыкаў.

Беластоцкая арганізацыя павінна зараз-жа ўсьведаміць свае ўнутры арганізацыйныя задачы, павінна рэалізаваць пастановы VI Зьезду КПП, выдзяліць пры АК оргаддзел. Весьці вучот сваіх членаў, надзяляць іх адпаведнай літаратурай, прымацаваць самых лепшых актывістаў да рашаючых ячэяк, на падставе штодзённых задач прапрацаваць пастановы VI пленуму і VI зьезду, пазнаёміць іх з палітычнай сытуацыяй, з нашай орг-палітыкай і г. д. Увесьці як мэтад працы калектыўны кантроль (справаздача кожнага члена перад усёй ячэйкай), сачыць за тым, каб ячэйка не адарвалася ад мас, а жыла пытаньнямі масы, узначальвала яе барацьбу. **Мы павінны здалець разгарнуць ініцыятыву і рэвалюцыйную энэргію тэкстыльшчыкаў, якія атрымалі баявое крашчэньне ў забастовачнай барацьбе і замацавалі сваю адданасьць справе рэвалюцыйнай барацьбе ўступленьнем у партыю.** ГК Беластоку павінен ўсямерна садзейнічаць разгортваньню ініцыятывы, аказваць дапамогу, кожнаму члену ячэйкі ў даручанай яму працы, не ператвараючы гэтую дапамогу і дробязную апеку і не падмяняючы ячэйкоўцаў. Мы аб гэтым напамінаем менавіта для таго, што ў нашай практыцы наглядаюцца скаргі з боку паасобных ГК, «мы распрацавалі плян з ячэйкай, але ячэйка не правяла ў жыцьцё», а калі памацаеш на самай справе, аказваецца, што члены ячэйкі далёка сабе не ўсьведамілі задач, стаячых перад імі і не маючы вопыту, напатыкнуліся на цяжкасьці, якіх не змаглі на першы раз перамагчы. Усё гэта трэба мець на ўвазе, але ні ў якім разе не **адступіць** у працы над нашым асноўным зьвяном — над фабрычнай ячэйкай.

**Заўвага:** «Партработнік» просіць ячэйкі тэкстыльшчыкаў пісаць карэспандэнцыі аб сваёй працы. На вашым вопыце будуць вучыцца іншыя арганізацыі.

# Больш увагі барацьбе супроць пацыфікацыі.

«У адказ на карныя атрады ў Баранаве і шэрагу іншых вёсак АК рашылі неадкладна разгарнуць кампанію пратэста і выслаць прадстаўнікоў РК на масоўкі з тым, каб расказаць масам, што адбываецца ва ўсіх раёнах. Пасьля шэрагу масовак, на якіх прыняты рэзалюцыі пратэста супроць грабежніцкай камасацыі і карных экспэдыцый, у якой прымала ўдзел да 500 чалавек...» (З справаздачы Горадзенскага АК).

«Карныя атрады рушылі ў вёскі Хлістовічы, Квасоўка, Мікуўка, Гароднікі, Дзкаловічы, Дарашэвічы і маёнтак Кругляны. Мясцовыя арганізацыі па ўласнай ініцыятыве, ня гледзячы на карныя атрады, хутка наладзілі дэманстрацыю ў Індуры, у якой прымала ўдзел 500-600 чалавек». (Там-жа).

Вопыт разгорнутай кампаніі на Горадзеншчыне — у раёнах ахопленых карнымі экспэдыцыямі (Індурскі раён), аб якім друкуем вышэй гаворыць аб тым, што калі арганізацыя разумее значэньне акцыі пратэсту і выяўляе патрэбную ініцыятыву, нам удаецца падняць масавую акцыю пратэста. Але гэтага не разумее яшчэ большасьць нашых арганізацый.

Асабліва адстаюць да гэтага часу нашы галоўныя гарадзкія арганізацыі Вільні, Беласток і інш. у справе разгортваньня акцыі пратэсту супроць тэрару і пацыфікацыі.

Шалёны белы тэрар на ЗБ скірован супроць усіх працуючых, супроць усіх змагаючыхся з акупантамі. Белым тэрарам фашыстоўскі ўрад хоча ўтрудніць барацьбу за штодзённыя патрэбы галадуючых мас гораду і вёскі, ізаляваць кампартыю ад мас. Дзеля гэтага не адарвана ад арганізацыі мас на барацьбу за штодзённыя патрэбы, а ў цясьнейшай сувязі з патрэбамі працуючых, беспрацоўных

гарадзкой беднаты і сялянскіх мас у чым бы то ні стала трэба разгарнуць акцыі пратэсту супроць шыбеніц, пацыфікацыі і правакацыі. Трэба выкарыстаць усе формы агітацыі — масоўкі, рэзалюцыі пратэсту і г. д., каб паведаміць самыя шырокія масы ў нас і за мяжой аб зьверствах фашыстоўскай паліцыі. Масоўкі, стачкі-пратэсту, дэманстрацыі, паходы галодных, працуючых і беспрацоўных супроць кожнага акту белага тэрару — вось цэнтральная палітычная задача для ўсіх нашых партыйных арганізацый, у першую чаргу для гарадзкіх. Гарадзкія рабочыя пры дапамозе і пад кіраўніцтвам нашых арганізацый у гэтых выступленьнях павінны ўсьведаміць сваю ролю гегемона ў рэвалюцыйнай барацьбе, павінны адгукнуцца на барацьбу сялян і стаць для іх прыкладам.

### ДОПІСЫ З МЕСЦ

**У нашым раёне арганізуюць за апошні час масавае зьбіваньне канфідэнтаў. У 3-х вёсках маса ад 30 да 40 чалавек зьбіла да напоўсьмерці 4-х канфідэнтаў. У вёсцы Парасьляны сабралася 150 чал. з 3-х вёсак на вечарынку. На вечарынку прыйшлі канфідэнты з другой вёскі са шпікам. Ячэйка пачала рыхтаваць масу, каб зьбіваць іх. Шпік, пранюхаўшы гэтую справу, адразу ўцёк. Другі таксама пачаў уцякаць (гэта было 13-га студзеня). За ім кінуліся ўдагонку чалавек 30. Гэтая сволач уцякла ў хату солтыса і замкнулася. Там быў паліцыянт. Гэтыя 30 чал. выбілі дзьверы і выцягнулі на вуліцу і паліцыянта і канфідэнта і зьбівалі, другога — так, што гадзіны 2 качаўся на карачках і сьцякаў крыўёю. Двум канфідэнтам спалілі па 12 вазоў сена ў стагох на балоце. Праз некалькі дзён арыштавалі некалькі чалавек. Цяпер, у апошні час, з якой-бы вёсцы канфідэнт (дзе яны ёсьць) не зьбіраўся ў другую вёску, дзе яго ня ведаюць, ячэйка першай вёскі зараз-жа перадае ў другую, куды сабраўся ісьці канфідэнт, — што чакайце, сёньня да вас прыдзе канфідэнт. Тут маса ўжо рыхтуецца спаткаць яго.**

---

**Вось што расказываюць вачавідцы пацыфікацыі ў Камень-Кашырску:**

**«Калі прыехаў атрад паліцыі ў в. Сжаляр і пачалі браць усіх пагалоўна і зьбіваць. Тады зьбеглася з 4-х вёсак многа людзей і прагналі паліцыю, так што яны ўцякалі бяз аглядкі. Праз некалькі гадзін прыбыў атрад паліцыі значна большы і пачалі распарўляцца над селянамі, нішчучы іх хатнія здабыткі. Паловы насельніцтва гэтых 4-х вёсак арганізаваліся ў атрад з аружжам у руках і пачалі фармальны бой з паліцыяй. Было некалькі забіта паліцыянтаў і сялян. Хутка на дапамогу паліцыі прыбылі новыя сілы і паліцыя адціснула паўстанцаў у лес. Пасьля гэтага чорныя крумчаны зноў распачлі расправу над сялянамі ды такую, што той хто стаяў у старане цяпер таксама браў у рукі што папала і далучаўся да паўстанцаў. Усё насельніцтва 4-х вёсак і старыя і малыя пайшлі ў лес. Усё часьцей стала чуваць, што там-сям адбыўся напад і спалілі панскі двор ці пастарунак. Паліцыя зьежджаецца з усіх бакоў, прыбывае і войска».**

## Праца сярод парабкоў.

### (З ЦЫРКУЛЯРА ЦК КПП).

**На чале высоўваем наступныя дамаганьні і лёзунгі:**

**1. Патрабуем выплаты задоўжанасьці па заробках. 2. Ані воднай рэдукцыі і эксмісіі. 3. Ні граша абніжкі. 4. Трэбуем леташняй платы. 5. Прэч з фашыстоўскім арбітражам і індывідуальнымі ўмовамі. Далей ідуць дамаганьні: супроць замены ардынарыюшаў на лозакаў, скасаваць пасылкі і дармовую працу жон ардынарыюшаў, 8-мі газінны дзень працы і 6-ці, — для моладзі, забясьпечаньне на выпадак хваробы, беспрацоўя, няшчасных выпадкаў і на старасьць — за кошт абшарнікаў і дзяржавы, дапамогі і памешканьня для ўжо зрэдукаваных сельска-гаспадарчых рабочых, прызнаньня фальварачных камітэтаў і г. д.**

**Дамаганьні аб падвышцы (перадусім аднаўленьне плат 29-30 году) мы высоўваем толькі там, дзе існуюць для гэтага адпаведныя настроі і па меры разьвіцьця стачачных баёў. Дамаганьні, якія мы высоўваем у акцыі сельска-гаспадарчых рабочых, павінны быць абгавараны на масавых фльварачных нарадах, кладучы націск на лёкальныя дамаганьні.**

**Адным з рашаючых пытаньняў для пераможнага правядзеньня акцыі — гэта пытаньне арганізацыйнага ахопу мас, стварэньня на шырокай падставе адзінага фронту масавых камітэтаў акцыі і стачачных камітэтаў.**

**Надзвычай важным зьвяном у с.-г. баёх зьяўляецца разгортваньне акцыі салідарнасьці сярод працуючага сялянства, увязка баёў с.-г. рабочых з баямі сялян супроць падаткаў і даўгоў, штрафаў і аплат, за зямлю бяз выкупу — арганізацыя сялянскіх камітэтаў, якія супрацоўнічалі-бы з бастуючымі рабочымі, не дапускалі-бы штрэйкбрэхераў у вёскі, арганізоўвалі-бы бастуючым чынную дапамогу і т. п. Таксама трэба мець на ўвазе арганізацыю сялянскіх стачак. Трэба ўцягваць у камітэты акцыі і стачачныя камітэты прадстаўнікоў сялян, арганізоўваць супольныя сходы і канфэрэнцыі.**

**З мэтаю недапушчэньня штрэйкбрэхерскіх манэўраў сацыял-фашыстаў і рэакцыйных саюзаў (ППС-аўскіх, а ў Пазнаншчыне і Помор'і НПРаўскіх З.З.З. і т. д.) трэба узмацніць рэвалюцыйную апазыцыйную працу ў гэтых саюзах. Нашыя таварышы і нашыя прыхільнікі павінны дэмаскоўваць перад масамі «левыя» манэўры і штрэйбрэхерскую тактыку правадыроў гэтых саюзаў і адначасна выступаць на сходах, нарадах і канфэрэнцыях ва ўсіх саюзах з уласнымі прапановамі, настаўленымі на сапраўдную барацьбу, прапагандаваць нашыя лёзунгі і дамаганьні, агітаваць за стачку, за перадачу кіраўніцтва барацьбою ў фальварках, гмінах, паветах і г. д. стачачнымі камітэтам, якія абіраюцца самымі сельска-гаспадарчымі рабочымі.**

**Сучасная акцыя павінна быць таксама выкарыстана для разбудовы нашых партыйных арганізацый сярод с.-г. рабочых.**

# ПРАЦА НА ВЁСЦЫ.

## БАРАЦЬБА Ў ЗЬВЯЗКУ З ГОЛАДАМ.

З многіх месц ЗБ паступаюць грозныя весткі аб тым, што сёлета голад на вёсцы дасяг нябывалых яшчэ дагэтуль разьмераў і шырыні. На грунце сыстэматычнага недаяданьня і голаду ўзьнікаюць паўсямесныя эпідэміі хвароб, а ў першую чаргу галоднага тыфусу. Цэлыя аколіцы як напрыклад у Віл.-Троцкім павеце павальна ахоплены галодным тыфусам і акружаны кардонамі паліцыі.

Фашыстоўская прэса і ўлады на мясцох устрывожаны ўзрастаючым абурэньнем мас супроць фашыстоўскага рэжыму. Фашызм паднімае вялікі шум каля так званай дапамогі галадуючым і беспрацоўным. Паўсямеснае ствараюцца так званыя камітэты дапамогі, у склад якіх уваходзіць і кіруюць прадстаўнікі заможных клясаў і клеру. Пад наглядам гэтых-жа камітэтаў праводзяцца кампаніі збору сродкаў, у часе якіх насільна адлічаюць некалькі процантаў ад зарплаты, збор бульбай і натурай і інш. У Баранавіцкім павеце аграблена такім чынам сялян на 28.000 кілё бульбы.

Зразумела, што гэтая філянтрапічная акцыя фашыстаў не аблягчае палажэньне галадуючых беспрацоўных, схварэлых мас, а зьяўляецца замаскаванай формай грабяжу працоўнага сялянства, рабочых мас і служачых і мэтадам адцягіваньня мас ад барацьбы.

Нездавольства галадуючых мас выліваецца ў вядомых ім ужо, дзякуючы партыі формах барацьбы: супроць падаткаў, штрафаў, шарварак, масавым захопе лесу і т. п. Нярэдка паасобныя адзінкі і групы ідуць у партызанку, каб узброенай сілай дабываць сабе пражыўленьне і мсьціцца за сваё гібельнае палажэньне.

Партарганізацыі да гэтага часу яшчэ мала зрабілі, каб накіраваць нездавольства галадуючых мас на **непасрэдны арганізаваны некулькі вёскамі захоп абшарнічых і казённых складаў, сьвірнаў, буйных магазынаў.** Яшчэ гэтая форма барацьбы недастаткова спапулярызавана, ня прывіта ў практыцы барацьбы мас, хоць прадпасылкі для гэтага бязумоўна маюцца. Аднэй з прычын тармозячай разгортваньне масавых захопаў складаў, гэта тое, што партарганізацыі на мясцох недастаткова скіроўваюць «у разгортваньні барацьбы сялянскіх мас галоўны ўдар супроць акупацыі і абшарнікаў, як галоўнага клясавага ворага» (VI пленум) на вёсцы.

Абавязкам партарганізацыяў на мясцох гэта сыстэматычна праводзіць штодзённую падрыхтоўчую агітацыйную працу, умець ухапіцца хоць-бы за самы нязначны выпадак і развязаць, арганізаваць нездавольства галадуючых мас на захоп складаў, сьвірнаў і падзелу захопленага дабра паміж галадуючымі і беднатой праз выбраныя сялянскія камітэты, уцягнуць як мага больш шырокія сялянскія і батрацкія масы.

З надыходам вясны вельмі актуальным таксама зьяўляецца пытаньне насеньня, пашы, інвэнтару для апрацоўкі поля. Партыя павінна заклікаць і арганізаваць сходы па вёсках, масавыя дэманстрацыі да гмін, старостваў з дамаганьнем насеньня, інвэнтару і цяглавай сілы, дзяржаўнай дапамогі для беспрацоўных і галадуючых, бясплатнага лячэньня хворых, ладзіць самавольны захоп сэрвітутаў, абшарніцкай і кулацкай пашы і выгонаў.

Дэмаскуючы дзейнасьць фашыстоўскіх камітэтаў, трэба арганізаваць прагнаньне іх агентаў, не даваць ніякіх збораў сродкаў, адмаўляцца ад выплаты процантнага адлічэньня, выносіць масавыя пратэсты. Адначасна заклікаць масы і арганізаваць выбары сялянскіх камітэтаў барацьбы, якія ўзначальваюць і арганізуюць барацьбу сялянскіх мас супроць віноўнікаў голаду — капіталістаў і абшарнікаў ды іх фашыстоўскага ўраду.

Роля батракоў у гэтай барацьбе павінна быць пераважаючай, кіраўнічай. Забастоўкі батракоў бязумоўна зьявяцца лепшым мабілізуючым сыгналам да барацьбы акаляючага сялянства, да забастовак вясеньніх сэзонных рабочых. Трэба прыняць пад увагу, што формы забастовак, перанятыя сялянствам ад рабочых, маюць што-раз большую папулярнасьць і большае прымяненьне. Асабліва гэта яскрава наглядаецца ў нядаўніх масавых забастоўках возчыкаў (Белавежа, Пружаны, Слонім).

Гэтую ініцыятыву сялянскіх мас трэба падхапіць, расшырыць і арганізаваць і гэтым самым узмацняць і ўбаёвіць рабоча-сялянскі саюз і гегемонію пралетарыяту.

## БАРАЦЬБА СУПРОЦЬ КАМАСАЦЫІ — АКТУАЛЬНЕЙШАЯ ЗАДАЧА.

У нашым павеце ў асноўным камасацыя ўжо праведзена і вёскі разьбіты на хутары. Беднянцтва і серадняцтва моцна нездаволена камасацыяй. (Ліст з Барановіч).

«Пры камасацыі прынят зусім справядлівы прынцып, што горшыя землі выдзяляюцца беднаце, а лепшыя землі для заможных»
(«Рольніцтва», орган Мін. Землярообства).

«Алё акупантам мала паншчыны, яны хочуць распарцэляваць нашы вёскі, каб пасьля ў паадзіночку лягчэй выдушыць астатнюю кроў з селяніна. Дзе возьме бедната пашы, дзе грошы на перанос будовы. Прэч з кулацкай камасацыяй». (З лістоўкі Рудніцкага РК).

У шмат мясцох фашыстоўскай уладай прымусова, насільна альбо ашуканствам правялі камасацыі.

У тых мясцох, дзе яшчэ не правялі камасацыі, сяляне бачучы на прыкладах, як гібельна адбіваецца камасацыя, даюць рашаючы адпор спробам фашыстоўскіх улад праводзіць камасацыю. Яскравым прыкладам, наколькі адпор мас камасацыі прымае вострыя формы, паказвае бурлівыя падзеі ў вёсцы Баранава, дзе барацьба супроць камасацыі захапіла дзесяткі іншых вёсак, пашыралася супроць тэрару і нацыянальнага ўціску, падаткаў і ўсяго фашыстоўскага ражыму.

З надыходам вясны барацьба за зямлю, барацьба супроць камасацыі стане яшчэ больш актуальнай. Задача партарганізацыі распаліць нездавольства сялян камасацыяй і накіраваць у рэчышча масавай арганізаванай барацьбы. Там, дзе камасацыя яшчэ не праведзена, ссылаючыся на жывыя прыклады з вёсак ужо скамасаваных, арганізаваць рашучы адпор супроць правядзеньня камасацыі. На сходах, масоўках заклікаць сялян усёй грамадой праганяць землямераў, чыноўнікаў, паліцыю, ладзіць дэманстрацыі да старостваў, гмін і памешчыкаў, як гэта мела месца ў Баранаве, арганізаваць масавы адпор супроць пераняseньня сялян на новыя вучасткі, здэмаскаваць кулацкую агітацыю за камасацыю. Там, дзе камасацыя ўжо праведзена, разгарнуць масавую барацьбу супроць спагону камасацыйных даўгоў, увязваючы гэтую барацьбу супроць падаткаў і розных штрафаў, арганізаваць беднату і серадняцтва да масавага выкарыстоўваньня абшарніцкай і кулацкай пашы, карыстаньня ўсёй грамадой кулацкіх калодцаў.

У некаторых мясцох у сялян маюцца настроі пайсьці на камасацыю пад варункам, калі ім зробяць прырэзкі зямлі. Неабходна растлумачыць, што і ў гэтым выпадку камасацыя ідзе на карысьць абшарнікаў і кулакоў, бо прырэзкі робяцца ад абшарніцкіх няўжыткаў, на якіх ён спэкулюе, і селяніну прыходзіцца выплачваць у некалькі дзесяткаў разоў больш іх вартасьці, а такіх даўгоў не вытрымае гаспадарка бедняка і серадняка.

Да гэтага часу ў барацьбе супроць камасацыі недастаткова падкрэсьліваўся той момант, што фашызм шляхам разбіўкі на хутары, хоча распарушыць сілу вясковай грамады, каб лягчэй было ў паадзіночку ламаць барацьбу і адпор сялянскіх мас.

Усе партарганізацыі і кожны камуніст упаасобку, больш увагі кіраўніцтву барацьбой мас супроць камасацыі, барацьбой за зямлю бяз выкупу.

## АРГАНІЗУЙМА БАРАЦЬБУ СУПРОЦЬ ПРЫМУСОВЫХ ВАРТ.

У вёсках Асташыно і Палужжа паліцэйскія хацелі праверыць ночную варту. Дзеля гэтага пераапрануліся ў сялянскую вопратку і заявілі варце, што ўцякаюць ад паліцыі ў СССР. Варта ў сваім часе была паведамлена аб хітрасьцях паліцыі. Злоўленыя праз варту паліцыянты былі зьбіты да паўсьмерці.

Акупанцкая улада на ЗБ і ЗУ хапаецца за новыя мэтады барацьбы з узрастаючым рэвалюцыйным рухам на вёсцы. Фашыстоўскі ўрад за апошнія часы ўвёў прымусовую варту. Кожная вёска павінна ноччу выстаўляць па 4-5 вартаўнікоў, каторыя адказваюць за сахраннасьць маёнткаў, складаў, адпавядаюць за тэлеграфныя і тэлефонныя дроты; яны павінны сачыць, каб ня была раскідана камуністычная літаратура, вывешаныя сьцягі і г. д.

Кожнага праходзячага варта павінна затрымоўваць, запісаць яго прозьвішча, месца жыхарства і месца, куды ён мае ісьці. Калі чалавек падазронны, дык вар-

та абавязана завесьці яго на паліцэйскі пастарунак. Разам з гэтым выдан паліцэйскі загад аб нявыходзе на вуліцы пазьней 9-ай гадзіны ўвечары. Асабліва гэта жорстка праводзіцца ў пагранічных раёнах, як: Навагрудчына, Стаўпеччына, Палесьсе і г. д. У некаторых раёнах Зах. Беларусі і на ЗУ, дзе асабліва моцна разгорнуты рэвалюцыйны рух — гэтыя варты налічваюць ад 10 да 15 чалавек, каторых фашыстоўскія ўлады прымушаюць вартаваць абшарніцкую маемасьць. За невыхад на варту на сялян накладаюцца штрафы, каторыя даходзяць ад 25 да 40 зл.

Што акупанцкая ўлада гэтымі вартамі хоча дасягнуць? — Мэта гэта зусім ясная. Акупанцкая ўлада хоча зрабіць з працоўных сялян падсобную сілу паліцыі і жандармэрыі ў барацьбе з рэвалюцыйным рухам, увесьці кругавую паруку і стэрарызаваць шырокія масы.

Прымусовая варта выклікае вялізарнае абурэньне сярод шырокіх працоўных мас сялянства. Задачай партыйных арганізацый выясьняць клясавы акупанцкі характар варт, арганізаваць працоўныя сялянскія масы на рашучую барацьбу супроць гэтых новых прымусовых павінасьцяў і мэтадаў тэрару акупанцкага ражыму; гэтую барацьбу трэба ўвязваць і спалучаць з барацьбой супроць шарварак і падаткаў, фашыстоўскага тэрару, пацыфікацыі, палявых судоў і шыбеніц, супроць дэкрэтаў аб таварыствах і г. д. Партыйная арганізацыя павінна зараз-жа арганізаваць і зьбіраць сходы, выясьняць мэты і задачы гэтых прымусовых варт, як зьвяно ва ўсім ланцугу акупацыйнага ражыму, прымаць рэзалюцыі пратэсту, за масавы нявыход на варты, масавы адказ ад выплаты штрафоў за нявыход на варту. Партарганізацыя на вёсцы павінна гэтую барацьбу праводзіць пад лёзунгамі: далоў з прымусовымі вартамі, масава будзем ламаць законы і загады акупанцкай улады. Далоў з фашыстоўскім трарам і пацыфікацыяй. Асабліва актыўную ролю ў гэтай барацьбе павінны прыняць КСМ, які ладзіць масавы выхад моладзі з рэвалюцыйнымі песьнямі пасьля 9 гадзін увечары і дэманстрацыйна ламаць паліцэйскія загады.

# СУПРОЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЎЦІСКУ.

## СУПРОЦЬ ХІСТАНЬНЯЎ У РАДОХ НАЦ.-ВЫЗВАЛЕНЧАГА РУХУ.

Рэвалюцыйны нацыянальна-вызваленчы рух у беларускіх гушчах на ЗБ нясупынна і наперакор шалёнаму тэрару акупанта ідзе наперад, пашыраецца, здабывае ўсьцяж новых прыхільнікаў змагароў, аднак часта-густа сярод інтэлігенцыі і незагартаваных у рэвалюц. барацьбе элемэнтаў нацыянальна-вызваленчага руху усьцяж наглядаюцца хістаньні, якія могуць стаць небясьпечнымі, калі працоўныя масы сваечасова не дадуць ім належнага адпору.

Гэтыя хістаньні знайшлі праяву: у пугтанным становішчы Галоўнай управы ТБШ, у справе супрацоўніцтва з фашыстоўскімі арганізацыямі; ва ўдзеле некаторых дзеячоў нац.-вызваленчага руху ў акадэміі, ладжанай хадэцыяй і прысьвечанай юбілею Янкі Купалы; на акруговым зьездзе ТБШ у Беластоку, дзе пад нацiскам шэфа шпіцляў з ваяводзтва Высакінскага не прагаласавалі рэзалюцыі пратэсту супроць суду над Тарашкевічам і рэпрэсіямі над ТБШ; у супрацоўніцтве часткі беларускіх студэнтаў з нац-вызваленчага руху з нац.-фашыстоўскімі антысавецкімі элемэнтамі у беларускім студэнцкім саюзе. Падставовая прычына гэтых хістаньняў зьяўляецца даўленьне кулацкай нацыянал-фашыстоўскай ідэолёгіі на некаторыя зьвеньні нацыянальна-вызваленчага руху. «Лявеючая» пад націскам мас фразэолёгія нацыянал-фашыстаў выклікае ў менш устойлівых адзінак нац.-вызваленчага руху ілюзіі, асабліва ў адносіньні да беларускай хадэцыі, якая быццам «больш чэсная», чым санацыя і інш.

Партарганізацыі праз свае фракцыі ў нацыянальна-вызваленчым руху мабілізуе масы на адпор гэтым хісатньням. Неабходна растлумачываць кулацкую контррэвалюцыйную сутнасьць, як на прыкладзе гісторыі, так і сучаснасьці ролі нацыянал-фашыстаў, што Луцневічаўская група з сваім «Родным краем» і БХД, Уласаў, Стэповіч і інш. належаць да аднаго контррэвалюцыйнага лягеру ворагаў беларускага народу і розьніца паміж імі толькі ў мэтадах і рознай меры ігрой у апазыцыю. Неабходна арганізаваць як у масавых арганізацыях нацыянальна-вызваленчага руху, так і сярод працоўных мас сходы, масоўкі, на якіх разгля-

даць пытаньне барацьбы супроць акупацыі і нацыянальнага ўціску, асуджаць розныя хістаньні ў бок супрацоўніцтва з акупантамі.

Каб папярэдзіць хістаньні ў некаторых зьвеньнях нац.-вызваленчага руху неабходна ўзмоцніць пралетарскае кіраўніцтва ў арганізацыі гэтага руху і ладзіць сыстэматычнае рэагаваньне і ўвязку барацьбы з боку гарадзкога пралетарыяту з барацьбой шырокіх прыгнечаных мас сялянства.

Праз свае фракцыі ў нац.-вызваленчым руху неабходна актывізаваць як гурткі ТБШ, так і іншыя арганізацыі, сыстэматычна ўцягваць у штодзённую барацьбу, што зьявіцца лепшай гарантыяй ад розных хістаньняў і ачышчэньня шэрагаў нацыянальна-вызваленчага руху ад непапраўных і варожых элемэнтаў гэтага руху.

## ПАДХАПІЦЬ ІНІЦЫЯТЫВУ МАС.

У гэтым нумары зьмяшчаем карэспандэнцыі розных раёнаў ЗБ аб высунутых масамі формах арганізацыі гурткоў культурна - асьветных, па вывучэньню беларускай мовы і інш. Гэта зьяўляецца адбіцьцём своеасаблівай барацьбой супроць палёнізацыі, супроць акупацыі, зьяўляецца цягай мас да асьветы ў роднай мове. На гэтых настроях мас спэкулююць і хочуць выкарыстаць беларускія нацыянал-фашысты. Новастворанная замест збанкрутаванага Цэнтрасаюзу, луцкевічаўская арганізацыя ТБА, высоўвае лёзунг барацьбы з няпісьменнасьцю. Беларуская хадэцкая маладзёжная часопіс «Шлях Моладзі» разводзіцца над тым, каб «арганізаваць карэспандэнцыйныя курсы беларускай граматы». У Вільні існуе белхадэцкая арганізацыя «Таварыства Прыяцеляў Беларусаведаў», праца якога выяўляецца ў чытаньні нацыяналістычных і фашыстоўскіх рэфэратаў.

Цяга мас да самаадукацыі і барацьба супроць палёнізацыі, выклікаюцца з аднаго боку сац. і нац. уціскам на ЗБ, а з другога — разбудовай сацыялізму ў БССР. У той час, калі на ЗБ няпісьменнасьць усьцяж павялічываецца і ў некаторых паветах даходзіць да 70 проц., дзе няма беларускіх школ, дык там у БССР ужо зьліквідавана няпісьменнасьць, маецца некалькі дзесяткаў вышэйшых навуковых установаў, мова ўсіх нацыянальнасьцяў зьяўляецца дзяржаўнымі і роўнапраўнымі. Тут за 13 год акупацыі дзяржавай выдадзена адна «беларуская» кніжка — лемантар Маеўскага з мэтай палёнізацыі і паняволеньня беларускага народу, а там у Савецкай Беларусі выдаюцца сотні і тысячы кніжак у роднай мове, маецца Дзяржаўная Бібліятэка, у 1932 г. налічвала 30 тысяч кніжак, а ў 1933 каля паўтары мільёна ды іншыя заваёвы на культурным фронце.

Задачай нашай партыі ў самым пачатку перабіць усялякія намеры нацыянал-фашыстаў спэкуляваць на абурэньні мас супроць акупацыі, здэмаскаваць Луцкевічаў і хадэкаў, прыкідваючыхся адзінымі абаронцамі беларускага народу і яго нацыянальных інтарэсаў. Партарганізацыі на мясцох павіны зрываць усялякія спробы нацыянал-фашыстаў пранікнуць у існуючыя ўжо гурткі вывучэньня беларускай мовы ці іншыя падобныя арганізацыі. А там, дзе нацыянал-фашысты ўжо пралезьлі альбо арганізуюць свае гурткі барацьбы з няпісьменнасьцю, праводзіць дэмаскуючую працу аж да прагнаньня іх нацыянал-фашыстоўскага кіраўніцтва.

Трэба тлумачыць масам, што гурткі ТБА маюць на мэце адцягнуць масы ад барацьбы супроць акупацыі за дзяржаўную школу ў роднай мове, разбройваюць масы гутаркай, што атрымаць гэтыя школы цяпер няма «ніякай надзеі» («Шлях моладзі»).

Па прыкладу Берасьцейшчыны, Гарадзеншчыны і іншых месц, праз вясковы актыў (а такжа праз фракцыі ТБШ) арганізоўваць гурткі самаадукацыі вывучэньня беларускай мовы (украінскай, літоўскай і інш.), альбо вывучэньня беларускай літаратуры, гісторыі нацыянальна-вызваленчага руху, гурткі чыткі газэт і т. п. Асабліва трэба зьвярнуць увагу на арганізацыю вывучэньня роднай мовы сярод вучняў польскіх школ і зьвязываць гэта з барацьбой супроць палёнізацыі і фашызацыі у гэтых школах.

У ніякім выпадку гэтую культурна-асьветную працу мас нельга пераварацьць у стварэньне прыватных школ з платнымі вучыцелямі, якіх па сутнасьці можа ўтрымоўваць толькі кулацкая частка вёскі. Партыя ня толькі не выступае супроць імкненьня працоўных мас шляхам памянёных гурткоў, дзіцячых груп пра-

водзіць самаадукацыю, але становіцца на чале гэтага руху, ўсьцяж узмацняе барацьбу за дзяржаўную школу ў роднай мове, арганізуе масавыя выступленьні, дэманстэрацыі з дамаганьнем гэтых школ, арганізуе барацьбу ў школах супроць палёнізацыі, за бясплатныя падручнікі, абутак, сьнеданьні, прагананьне вучыцеляў - палёнізатараў, увядзеньне явачным парадкам беларускай мовы ў школах і дзяржаўных установах і інш.

У мясцох з украінскім ці літоўскім насельніцтвам трэба ў асноўным прымяняць нашую тактыку па гэтаму пытаньню, улічваючы пры гэтым асаблівыя варункі.

## ДОПІСЫ З МЕСЦ

**У нашым Кобрынскім раёне ў некаторых вёсках арганізаваліся масавыя вечарыны-бяседы. У аднэй з вёсак сабралася каля 200 асоб, у тым ліку 9 атпускнікоў-салдат. Выступала 4 прамоўцы, якія закранулі такія пытаньні: супроць падаткаў, белага тэрару, супроць нападу на СССР і абарону СССР, пацыфікацыя і т. д. Адзін з прамоўцаў вяртаецца да 8 салдат з запытаньнямі: ці праўда, [illegible] дзеце рабіць, калі вас пашлюць ваяваць супроць СССР?» «Бронь в бжух своіх офіцэрув і буржуев». Гэтыя словы былі пакрыты громам аплёдысмэнтаў. Прамоўца заклікаў усіх прысутных пасьледваць прыкладу салдат. Зноў гром аплёдысмэнтаў. Пасьля палітычнай часткі пачаліся дэклямацыі, пяяньне рэвалюцыйных песень і г.д.**

**У 7-мі вёсках Берасьцейшчыны адбыліся вечарыны-бяседы (акадэміі), на якіх прысутнічала столькі народу, сколькі можа зьмясьціць сялянская хата. На такіх вечарынах вядуцца бяседы на розныя палітычныя тэмы аб балячках працоўных мас, аб клясавай барацьбе, пасьля была масавая дэклямацыя рэвалюцыйных вершаў, пяяньне рэвалюцыйных песень, рассказы, успаміны і г. д.**

## БАІ ПРАЛЕТАРЫЯТУ ЎЗВАРУШЫВАЮЦЬ ДРОБНУЮ БУРЖУАЗІЮ.

Забастоўка электраспажыўцаў у Беластоку ўпарта працягваецца. Бастуючыя патрабуюць паніжэньня цэн тока да 60 гр. кілёватгадзіну. 12-II на мітынгу, дзе было прысутных 1.500 чал. апрача рэзалюцыі аб працягваньні забастоўкі, не адступаць ад сваіх дамаганьняў, прынята таксама—рэзалюцыя **не плаціць** за ток за мінулы месяц. З масы былі заклікі да біцьця шыб і інш. (з «І.К.Ц.»).

«Электрычныя» забастоўкі адбыліся ў Вільні, Саколкі, працягваецца ў Сувалках, дзе ў кіраўніцтве стаіць забастовачны камітэт. Магістрат перш не хацеў прызнаць яго, цяпер прымушан нясьці з ім перагаворы, ідзе на ўстгпкі. (З газэт).

1 красавіка канчаецца 6-месячны зімовы пэрыяд, калі суд мог затрымаць эксмісію беспрацоўнага кватэранаймацеля. У сувязі з гэтым будзе значны рост ліку эксмісій... Сытуацыя вельмі напружаная («Газ. Варшаўска», 15-II—33 г.).

**Гэты рух зруйнаванай крызысам дробнай буржуазіі пробуюць перахопліваць і стаць нават на чале яго клясавы вораг. Ствараюцца розныя абыватэльскія камітэты ад ББ і розных «апазыцыйных» партыяў, канчаючы сацыял-фашызмам, узначальваюць гэтыя забастоўкі для таго, каб абезглавіць іх, накіраваць у сваё рэчышча.**

**Цікава і важна, як Бунд шпарка і рупна рэагуе на рух кватэранаймацеляў для таго, каб перахопліваць іх рэвалюцыйныя настроі. У першай палове лютага гэтага году на паседжаньні экзэкутывы Бунду выпрацаваны наступныя патрабаваньні для лёкатараў: 1) паніжэньне кватэрнай платы на палову, 2) спыніць эксмісіі беспрацоўных і бедных, 3) скасаваць усіх старых даўгоў за кватэрную плату. Зразумела, што Бунд, пастасоўваючыся да гэтага руху, хоча перадусім накіраваць яго ў рэчышча магчыма больш спакойнага і мірнага пратэсту.**

**Партыі нельга стаяць з боку ад барацьбы дробнай буржуазіі. Кмуністы абавязаны біцца з клясавым ворагам, з фашызмам і сацыял-фашызмам за уплывы на дробную буржуазію.**

**Нашы партарганізацыі часта спозьніваюцца пры ўвязьці ініцыятывы ў гэтым руху. Неабходна ўжо цяпер вырваць ініцыятыву ў фашыстаў і сацыял-фашыстаў, стаць на чале руху «электрычных» забастовак, узяць ініцыятывы барацьбы кватэранаймацеляў, увязаць іх з выступленьнем беспрацоўных і г. д. Трэба ўсямерна падтрымоўваць і арганізоўваць, пашырыць і завастрыць такія патрбаваньні мас, як напрыклад НЕ ПЛАЦІЦЬ за мінулыя месяцы, ісьці дэманстрацыямі пад магістрат, да электроўні, да старостаў і г д.**

**У руху лёкатараў нам першым трэба выступаць з ініцыятывай арганізацыі гэтай барцьбы. Распрацоўка патрабаваньняў на мясцох (у залежнасьці ад асаблівых варункаў) павінна адбывацца разам з беспрцоўнымі, беднатой на іх сходах і нарадах Яшчэ перад 1-м красавікам, калі эксмісіі прынялі больш масавы характар, мы павінны ўжо цяпер разгортваць гэты рух. Здэмаскоўваючы і вядучы барацьбу супроць сацыял-фашызму, якія хочуць разрадзіць энэргію мас, трэба кідаць лёзунг НЕ ДАПУСКАЦЬ ДА ЭКСМІСІЯЎ беспрацоўных, рабочых і беднаты. Масава даваць адпор экзэкутарам, адгэтуль неабходна стварэньне масавай самаабароны ў барацьбе з паліцыяй і г. д. Абвастраем патрабаваньні ДА НЕПЛАЦЯЖУ, ніякіх кватэрных даўгоў і аплат кватэраўласьнікам; ніякіх кватэрных і іншых падаткаў фашыстоўскаму ўраду.**

**Мы павінны выкарыстоўваць гэты рух дзеля стварэньня масавых арганізацый гэтых-жа пластоў насельніцтва пад якой-бы то ні было назвай, як напрыклад, «саюз працоўных і бедных лёкатараў», «саюз абароны інтарэсаў працоўных электра-спажыўцаў» і т. п. Мы павінны арганізаваць нашы фракцыі ісьці і весьці працу ў існуючых арганізацыях гарадзкой беднаты, нягледзячы на тое, што імі кіруюць фашысты і сацыял-фашысты. Нам трэба дабіцца таго, каб на чале руху працоўнай гарадзкой дробна-буржуазнай беднаты сталі рэвалюцыйныя рабочыя, сталі камуністы.**

# КАМСАМОЛЬСКАЯ СТАРОНКА.

## ПЛЕНУМ КІМ'а.

У канцы сьнежня 1932 г. адбыўся пашыраны пленум Выканкому Камуністычнага Інтэрнацыяналу Моладзі. Пленум адыграе важнейшую ролю ў разгортваньні ўсіх сэкцый КІМу. Пленум паказаў рост КІМа ў цэлым шэрагу краёў, яго заваёвы і выкрыў ўсе асноўныя слабасьці яго.

У магутную 150-тысячную арганізацыю вырос кітайскі камсамол. КСМ Японіі даў прыклады бальшавіцкай барацьбы супроць імпэрыялістычнай вайны ўсяго інтэрнацыяналу Моладзі. КСМП адыгрываў значную ролю ў забастоўках Дамброўскага басэйну і Лодзі, КСМ Чэха-Славакіі — у забастоўцы ў Брыксе, КСМ Гішпаніі — у магутнай хвалі забастовак ва ўсім краі і інш.

Пленум прайшоў пад знакам бальшавіцкай самакрытыкі; асноўная слабасьць аграмаднае большасьці камсамолаў застаецца надалей — адрыў ад мас, сэктанцтва ў формах і мэтадах працы. Большасьць забастовак праходзіць без удзелу КСМ, асабліва слабая роля саюзаў у буйных забастоўках і сярод беспрацоўнай моладзі — у выніку аграмаднае адставаньне разьвіцьця КСМ ад разьвіцьця кампартый. Замест таго, каб камсамольскія арганізацыі былі колькасна шырэй партыі — яна на справе значна, часта ў шмат разоў, адстаюць ад партарганізацый... Асабліва востра гэтае адставаньне выступае ў справе арганізацыйнага касьцяка—фабрычных ячэяк.

У аснову рашэньняў пленума КІМа легла распрацоўка задач усіх саюзаў, задача заваяваньня большасьці рабочай моладзі, як задача непасрэдна актуальная ў сувязі з сытуацыяй канца стабілізацыі і пераходу да новага туру рэвалюцый і войнаў.

Пленум паставіў перад усімі саюзамі задачу падняцьця мас моладзі на барацьбу супроць наступленьня капіталу, задачу арганізацыі моладзі ў забастоўках, у выступленьнях беспрацоўных.

Другой задачай, пад знакам якой праходзіў пленум, — гэта задача заваяваньня мільёнаў мас моладзі, арганізаваных у варожых арганізацыях (у Нямеччыне, напрыклад, з 7 мільёнаў моладзі каля 5 мільёнаў арганізавана ў буржуазных, сацыялістычных і рэфармістычных арганізацыях. У рэвалюцыйных арганізацыях—некалькі сот тыс. У Польшчы—варожыя арганізац. ахопліваюць сотні тысяч моладзі. Адгэтуль задача камсамольцаў — быць там, дзе ёсьць масы рабочай моладзі; задача КСМ арганізаваць нездавольства і стыхійную апазыцыйнасьць, каб масы яе ўсьведамілі сябе на ўласным вопыце барацьбы, накіраваць узрастаючую актыўнасьць мас моладзі, рэвалюцыйных настрояў на шлях сьвядомай барацьбы супроць буржуазіі.

Праз аграмадную сетку буржуазных арганізацый буржуазія праводзіць палітыку мілітарызацыі і ваенізацыі моладзі. Барацьба супроць глыбока актуальнай ваеннай небясьпекі заняла шмат месца ў працы пленуму КІМа.

Адно з цэнтральных месц у працах і рашэньнях пленуму КІМа было пытаньне перабудовы ўсёй сыстэмы працы ў сэкцыях КІМа. Трэба разбудаваць сеткі фабрычна-заводзкіх ячэяк, рэалізаваць рашэньні XI пленуму ВККІ аб стварэньні пры кожнай партыйнай фабрычнай ячэйкі — камсамольскую; усіліць палітычнае і ідэолёгічнае выхаваньне камсамола і барацьба з цякучасьцю ў шэрагах КСМ, барацьба з бюрократычнымі і папяровымі мэтадамі кіраўніцтва і правядзеньне ў жыцьцё прынцыпаў дэмакратычнага цэнтралізму.

Рашэньні КІМа глыбока актуальны для КСМ ЗБ, бо і ў нас важнейшыя слабасьці — гэта няўменьне кіраваць забастовачнай барацьбой рабочай моладзі, асабліва ў буйных забастоўках; слабасьць барацьбы за масы ў варожых арганізацыях; аграмаднейшая слабасьць фабрычна-заводзкага касьцяка ў арганізацыі. Пытаньне перамаганьня гэтых недахопаў мае сувязь з рэалізацыяй кіраўніцтва з боку КСМ і рабочай моладзі сялянскім і нацыянальна-вызваленчым рухам сярод моладзі.

Хутка будуць апублікаваны рашэньні КІМа. Кожная ячэйка павінна будзе ўзяцца за распрацоўку гэтых рашэньняў, канкрэтызацыі ў варунках ЗБ і кожнай арганізацыі ўпаасобку. У апошні час ня толькі няма ўзмацненьня нашай працы, але нават некаторае аслабленьне. Распрацоўка рашэньняў КІМа і правядзеньне іх у жыцьцё павінна паслужыць рычагом для перамажэньня нашых слабасьцяй.

# ŻYCIE PARTYJNE.

## Z LISTU KOMITETU CENTRALNEGO KPZB DO WSZYSTKICH CZŁONKÓW WILEŃSKIEJ ORGANIZACJI

(22 listopada 1932 r.).

«...Niewątpliwie mamy pewne kroki naprzód w pracy organizacji wileńskiej w porównaniu z okresem poprzednim (ożywienie akcji antywojennej w okresie przygotowawczym do Kongresu Amsterdamskiego, szereg narad jednolitofrontowych na cegielniach i wśród robotników kanalizacyjnych, początki ożywienia roboty w związkach zawodowych).

...Lecz te pierwsze kroki nie pociągnęły za sobą następnych. Nie mamy dotychczas zwrotu w dziedzinie pracy masowej, przedewszystkiem w organizowaniu walk ekonomicznych proletarjatu wileńskiego przeciw atakom kapitału i rządu faszyst. Org. Wil. dotychczas nie dotarła do przedsiębiorstw monopolu państwowego (tytoń, spirytus), nie organizowała walki bezrobotnych. Organizacja wileńska nie organizowała wystąpień proletarjatu wileńskiego przeciw krwawej pacyfikacji na Wołyniu i Polesiu, w obronie chłopów ukraińskich i białoruskich, walczących dotychczas z bandami okupantów. To świadczy otem, że dotychczas org. wileńska nie dokonała zwrotu w sprawie kierownictwa ruchem narodowo-wyzwoleńczym. Organizacja wileńska nie reagowała na proces 28 rewolucyjnych żołnierzy, który się odbył w Wilnie w październiku.

Organizacja wileńska nie stawiła oporu fali antysowieckiej, szerzonej przez wroga klasowego w celu odciągania mas pracujących od walki rewolucyjnej, w celu rozbicia międzynarodowego frontu walki robotników i chłopów polskich, żydowskich, białoruskich, litewskich i ukraińskich, nie stworzyła międzynarodowych drużyn samoobrony przeciw bandom pogromowym. Mamy natomiast niebezpieczne objawy nastrojów antysemickich u poszczególnych członków organizacji wileńskiej, co świadczy o braku międzynarodowego wychowania szeregów partyjnych. W tej kwestji VI Plenum KC KPZB podkreśla zadanie maksymalnego wzmożenia walki z «wielkomocarstwowym polskim nacjonalizmem, szowinizmem i antysemityzmem, jako z jednym z podstawowych narzędzi w ręku imperjalizmu polskiego w celu wzmocnienia okupacji, szczucia polskich mas pracujących przeciw walce narodowo-wyzwoleńczej, w celu rozbicia frontu rewolucyjnego. Jednocześnie należy prowadzić nieubłaganą walkę przeciw wszelkim przejawom białoruskiego, ukraińskiego, żydowskiego i innych nacjonalizmów i szowinizmów, wzmocnić pracę w dziedzinie międzynarodowego wychowania mas...»

Zaznaczając fakt udziału pewnej liczby członków organizacji wileńskiej pod wpływem elementów rozkładowych w naradzie antypartyjnej, zwołanej bez wiedzy OK i wymierzonej przeciw OK, list KC mówi co następuje:

«...KC KPZB jest przekonany, że większość uczestników tej narady działała w szczerzej trosce o stan organizacji wileńskiej w związku z czasowem osłabieniem kierownictwa przed 7 listopada, a także w związku z tem, że część tych towarzyszy ostatnio była oderwana od pracy na terenie wileńskim i nie wiedziała ani o konferencji okręgowej i dzielnicowych, które się odbyły w jesieni r. b., ani o postępach organizacji wileńskiej, idących przedewszystkiem dotychczas po linji ożywienia wewnętrzpartyjnego. Ale jednocześnie musimy stanowczo wystąpić przeciw takiej panikierskiej ocenie całości pracy organizacji wileńskiej, szczególnie zaś KC potępia takie niedopuszczalne metody, jak narady bez wiedzy kierownictwa, które mogą być wykorzystane przez wroga klasowego dla osłabienia zwartości naszych szeregów, dla odciągnięcia uwagi organizacji od palących zadań, stojących przed partją. Szczególnie niebezpieczne są takie metody, osłabiające karność szeregów partyjnych w chwili, gdy wróg klasowy wzmaga swe ataki na awangardę klasy robotniczej, usiłując rozbić nasze szeregi — jak drogą dzikiego teroru faszystowskiego, tak również drogą prób przenikania wewnątrz partji w postaci kontrrewolucyjnego trockizmu, agentury socjal-faszyzmu.

KC KPZB przez cały czas czujnie śledzi stan i pracę organizacji wileńskiej, reagując na wszelkie braki kierownictwa, zwalczając metody komenderowania, kładąc nacisk na rozwój wewnątrzpartyjnej demokracji i na śmiałe wysuwanie nowych kadrów aktywu robotniczego bez różnicy narodowości, zwracając szczególną uwagę na decydujące oddziały proletarjatu wileńskiego. Lecz zwalcza i będzie zwalczał wszelkie próby zdezorganizowania szeregów partyjnych, podrywania zaufania partji do kierownictwa, osłabienia odporności partji, pracującej w warunkach niesłychanego teroru wobec wzmożonego nacisku wroga...»

## Z REZOLUCJI WILEŃSKIEGO OK O UCHWAŁACH VI PLENUM KC KPZB

«Po wysłuchaniu sprawozdania z wyników i uchwał VI Plenum KC KPZB, Plenum Wileńskiego KO KPZB całkowicie zgadza się i przyłącza się do postanowień Plenum.

Plenum KO podkreśla, że wileńska organizacja partyjna aż do dnia dzisiejszego nie potrafiła skierować swych wysiłków dla powiązania całej walki wileńskich robotników i bezrobotnych z ruchem narod.-wyzw. i z walką z uciskiem narodowym polskiego faszyzmu. Przyczyną tego było to, że komórki nie rozumiały swego wielkiego znaczenia, jako awangardy bojowej na tym odcinku, gdzie one pracują, nie rozumiały znaczenia ruchu narodowo-wyzwoleńczego i jego roli w ogólnem zadaniu — przygotowaniu rewolucji. W pracy KO przeważał propogandyzm, nie kierowanie codzienną ekonomiczną walką, lecz tendencja — najpierw uzdrowić pracę komórek, zaś potem dopiero zabrać się do pracy wśród mas».

Rezolucja KO rozwija szczegółowy plan pracy organizacji wileńskiej w zakresie kierownictwa walką ekonomiczną, w dziedzinie walki przeciw dekretom faszystowskim o stowarzyszeniach, o likwidacji ubezpieczeń społecznych i zasiłków dla bezrobotnych, w dziedzienie akcji antywojennej i walki z białym terorem, ruchu narodowo-wyzwoleńczego i pracy na wsi. Zadania pracy wewnątrzpartyjnej KO formułuje w sposób następujący

W pracy wewnątrzpartyjnej

A) Zasadniczem zadaniem jest odnalezienie wszystkich starych kontaktów i ożywienie pracy komórek przez rozszerzenie pracy ich wśród mas, wokół konkretnych bolączek robotników tego odcinka, gdzie dana komórka pracuje. Komórka partyjna powinna się stać kierownikiem walki robotników swego odcinka. W tym celu trzeba zerwać z sekciarstwem organizacji partyjnej, zwalczyć te nastroje oportunistyczne o bierności robotniczej masy w Wilnie, które żywi część organizacji.

B) Walczyć zdecydowanie przeciwko wszelkim przejawom prawego oportunizmu w praktyce, przeciwko niewierze w siłę rewolucyjną klasy robotniczej i zdolność prowadzenia codziennej walki robotników. Walczyć przeciwko rozwiązłości i brakowi dyscypliny, panującym częściowo wśród organizacji. Wprowadzić do pracy KO systematyczne konkretne kierownictwo i codzienną kontrolę wypełniania postanowień KO, KD i poszczególnych komórek.

C) Niezwłocznie przystąpić do rozpatrzenia we wszystkich komórkach, KD i KO listu KC KPZB o trockizmie...

D) Zwołać szereg narad sekretarzy komórek, dotyczących poszczególnych konkretnych spraw w pracy organizacji wileńskiej (walka narodowowyzwoleńcza, akcja antywojenna i inne).

---

## ДА ЎВАГІ ВІЛЕНСКАЙ І ГОРАДЗЕНСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ

Віленская фашыстоўская прэса нясупынна вядзе паклёпніцкую кампанію супроць Віленскай арганізацыі з мэтай падарваць яе аўтарытэт у масах і сеяць сумненьні сярод яшчэ нямоцных членаў партыі, асабліва выдзяляецца «Кур'ер Віленскі» са сваімі сэнсацыйнымі «весткамі» аб тым, што быццам ў партыйным кіраўніцтве знаходзяцца растратчыкі партыйных і мопраўскіх грошай і г. д. Задача партыйнай арганізацыі Вільні даць адпор, які яна ў сваім часе давала правакацыям дэфы, прыдаць яму большую масавасьць, рэагаваць на кожную гэтакую заметку, ускрыць перад масамі мэты гэтых нападак, а таксама павесьці ўзмоцненую кампанію супроць правакацыйных мэтадаў Віленскай дэфэнзывы змушаньня рабочых да падпісваньня розных дэкляраций.

Адначасова да нас даходзяць весткі, што і ў Горадні пушчаны чуткі, быццам усе партыйныя таварышы і рэвалюцыйныя рабочыя гэта правакатары і агенты дэфэнзывы. Гэтая работа Горадзенскай дэфэнзывы, мае на мэце, каб у дадатак да масавых арыштаў, зьверскіх зьбіваньняў і палявых судоў унесьці разброд і няверра ў масы, падарваць аўтарытэт партыі, унесьці перапалох у шэрагі партыі. У гэтай справе дэфе дапамагае сацыял-фашыстоўская прэса і іх правадыры, якія падхопліваюць і раздуваюць дэфоўскія правакацыі, кожнае выступленьне арганізаванае камуністамі, на якое фашыстоўская паліцыя адказвае тэрарам, называе правакацыяй («Роботнік», «Фолксцайтунг», «Родны Край» і ін.). Горадзенская арганізацыя да гэтага часу не павяла кампаніі па дэманстраваньню работы дэфы, па барацьбе супроць сыпачастава і сыпачэй, якія мелі месца ў Горадні. Горадзенская арганізацыя павінна шляхам спэцыяльных камунікатаў, адозваў і г. д. растлумачваць масам мэты правакацыйных мэтадаў фашыстоўскай дэфэнзывы, мабілізаваць масы на пратэстцыйныя сходы і дэманстрацыі, на масавую расправу з шпікамі на барацьбу супроць усялякага факту шыбенічнага рэжыму фашыстоўскай акупацыі.

---

## РАШЭНЬНІ ЦК КПЗБ

К., член ЦК КСМ ЗБ выключан на два гады з партыі за недапушчальнае палажэньне з канспірацыяй на вучастку яго працы, за што ён нясе адказнасьць і за вядзеньне дэканспірыруючай перапіскі.

А., член №-кай партыйнай арганізацыі выключан з партыі за сыпачаства пры першым арышце і за ўкрыцьцё гэтага злачыннага факта перад партыяй.

З., член №-кай партыйнай арганізацыі выключан з партыі за штрэйкбрэхерства ў часе забастоўкі.

М., член №-скай партарганізацыі выключан з партыі за праяўленьне дэзэртырскіх настрояў, што выразіліся ў жаданьні пакінуць рэвалюцыйны пост і паехаць у СССР, а таксама за недысцыплінаванасьць на партыйнай працы.

Х., члену №-скай партарганізацыі абвешчана суровая вымова з папярэджаньнем за невыкананьне дырэктыў кіруючых партыйных органаў.

---

## ЯК САМОМУ ЗРАБІЦЬ ГЭКТОГРАФ

Для друкаваньня ½ аркушу пішучай паперы трэба ўзяць чыстую бляшаную формачку (падобна тых, у якіх пякуць булкі) даўжынёю ў 37 см., шырынёю 24 см., вышынёю — 2½ см.

Для самага гектографа трэба ўзяць 2 фунты гліцарыну, ¼ фунта жаляціну і 2 чайных лыжачкі цукровага пяску.

Спачатку трэба варам растварыць жаляцін, так, каб атрымалася суцэльная густая маса. Потым трэба ў чыстую посудзіну наліць гліцарыну, так каб ён запаўняў толькі ¼ пасудзіны, і нагрэць яго да кіпеньня. Калі гліцарын пачынае закіпаць, дык трэба вельмі асьцярожна (каб не ашпарыцца) апусьціць туды жаляцін, 2 лыжачкі цукру, і ўсю гэтую масу ўвесь час мяшаць. Калі гэта пачынае кіпець, трэба ўвесь састаў выліць у загадзя падрыхтаваную формачку, формачка пры гэтым павінна стаяць на роўным месцы, каб уся павярхоўнасьць гектографа атрымалася роўнай, а потым трэба гэтую масу застудзіць.

Арыгінал падрыхтоўвацца наступным чынам: трэба купіць спэцыяльны гектографічны атрамант. Трэба старацца пісаць друкаванымі літарамі, на добрай паперы. Калі арыгінал гатоў, трэба яму даць прасохнуць. Потым трэба арыгінал пакласьці на гектограф так, каб ён шчыльна прыстаў да яго. Ён павінен ляжаць пару хвілін, потым яго трэба зьняць і ўжо прыступіць да друкаваньня (якасьць паперы тут ужо ня мае значэньня).

Такі гектограф, калі яго дакладна падрыхтаваць, дае да 100 штук.

Калі гектограф пачынае даваць неясныя экзэмпляры, тады трэба чыстай шматкай адмыць атрмант і падрыхтаваць новы арыгінал.

Калі павярхоўнасьць гектографа становіцца няроўнай, трэба ўсю гэтую масу ізноў пераварыць. Можна дадаць зноў сьвежы гліцарын, жэляцін і г. д.